# Няхай жыве 1 Мая


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 17 (272) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 29 КРАСАВІКА 1962 | ЦАНА 60 ГР.


## Пастановы IV Пленума ГП БГКТ

**IV Пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства сцвярджае, што ў апошні час праца гурткоў значна ажывілася, асабліва ў галіне мастацкага самадзейнага руху, арганізацыі асветных і практычных курсаў і г.д. Аднак большасць гурткоў вядзе аднабаковую працу, абмяжоўваючыся да культурна - асветнай праблематыкі. Трэба пакласці намаганні, каб кожны гурток БГКТ уключаўся ва ўсе мерапрыемствы, якія праводзяць Польская аб'яднаная рабочая партыя і ўрад Польскай Народнай Рэспублікі.**

**Гурток павінен жыць жыццём свайго асяроддзя. Да яго заданняў належыць умацаванне сужыцця паміж насельніцтвам, азнаямленне яго з прагрэсіўнай беларускай культурай ініцыяванне асветы дарослых, вярбоўка новых падпісчыкаў «Нівы» і папулярызацыя чытальніцтва беларускай літаратуры, арганізацыя розных культурна - асветных вечарын. Члены гурткоў БГКТ павінны актыўна ўдзельнічаць у рэалізацыі грамадскіх чынаў пры пабудове дарог, святліц, школ, лазняў, пажарных раміз, крам. Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на актыўнае ўключэнне ў мерапрыемствы звязаныя са зборам фонду на пабудову школ Тысячагоддзя. Гурткі БГКТ павінны таксама актыўна ўключыцца ў працу сельгасгурткоў, водных суполак і г. д. Гурток БГКТ павінен цесна супрацоўнічаць з ПАРП, ЗМВ, школай, ЛЗС, ЛПЖ, Лігай жанчын і іншымі існуючымі на вёсцы арганізацыямі і ўстановамі.**

**Дзеля забеспячэння гэтых заданняў Пленум пастанаўляе:**

**1. Члены ГП і члены Праўленняў аддзелаў абавязаны пастаянна апекавацца мінімум адным гуртком БГКТ.**

**2. Штатныя працаўнікі Галоўнага праўлення павінны працягваць, запачаткаваную ў гэтым годзе, абслугу гурткоў БГКТ мінімум 2 разы ў месяц, а працаўнікі «Нівы» — адзін раз у месяц.**

**3. Забавязваецца Прэзідыум ГП матэрыяльна забяспечыць абслугу гурткоў і апрацаваць новыя формы дзейнасці.**

**4. Стварыць фінансавы фонд дапамогі гурткам. З гэтай мэтай трэба, між іншым, наладзіць супрацоўніцтва з гандлёвымі ўстановамі, якія могуць дапамагчы ў развіцці культуры і асветы на вёсцы.**

**5. Ацаніць працу гурткоў на пасяджэннях Праўленняў аддзелаў і арганізаваць спаборніцтва паміж аддзеламі.**

**6. Увесці семінары і нарады для актывістаў БГКТ, дзеля ўдасканалення працы і абмену вопытам.**

**7. Арганізаваць планавыя экскурсіі для членаў БГКТ.**

**8. Разгледзець магчымасці дапамогі ў арганізаванні клуба - кафэ ў Гайнаўцы.**

**9. Арганізаваць рэгіянальны музей імя Кастуся Каліноўскага.**

**10. Прасіць асветныя ўлады арганізаваць завочную студыю беларускай філалогіі пры Варшаўскім універсітэце.**

**11. Прэзідыум ГП павінна звярнуцца да б'юро павятовых камітэтаў ПАРП з просьбай правесці раз у год аналіз працы аддзелаў і гурткоў БГКТ, а таксама прасіць забавязаць усе партарганізацыі да правядзення такога ж аналізу гурткоў на месцы.**

**12. На працягу 2-х месяцаў Прэзідыум ГП абавязаны арганізаваць аддзел Таварыства ў Дуброве.**



Прэзідыум IV Пленума ГП БГКТ.
Фота: Г. Рагазінскі

## Першамайскія чыны

Моладзь з Баршчэва на сходзе ЗМВ вырашыла адзначыць дзень 1 Мая чынам. Забавязалася пабудаваць скверык каля школы паверхнасцю ў 640 м², перапрацаваць 120 рабочагадзін пры пабудове дарогі Міхалова — Ялоўка, дапамагчы для ПГР у пабудове астаноўкі ПКС у Баршчэве, дапамагчы ў пабудове зліўнага пункта, а таксама абсадзіць 500 м дарогі дрэўцамі і ўпарадкаваць даязную дарогу ў Баршчэва.

Агульная вартасць гэтых прац вынясе 8.300 зл.

Акрамя таго моладзь ЗМВ з Баршчэва паклікала да спаборніцтва ўсе гурткі ЗМВ, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Беласточкага ваяводства.

**Дуб**

БАРЫС НІКІЦЮК

## УСЕАГУЛЬНАЯ ЗАБАСТОЎКА ЛЯСНЫХ РАБОЧЫХ У БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

15 кастрычніка 1932 года пачалася ўсеагульная забастоўка лясных рабочых і малазямельных сялян Белавежскай пушчы. Захапіла яна каля 7 тысяч удзельнікаў. Быў гэта адзін з найвялікшых эпізодаў класавай барацьбы ў перыяд крызісу на тэрыторыі Беласточчыны. З забастоўшчыкамі ў пушчы салідарызавалася каля 2 тысяч рабочых з лесапільных заводаў у Гайнаўцы і Белавежы, рабочыя з Чорнай Всі і Нурца, а таксама вазакі з Ружанскай пушчы і сяляне з Навагрудчыны. Падтрымалі іх тэкстыльшчыкі з Беластока.

Забастоўшчыкі вялі барацьбу на працягу 4 месяцаў. Захоплівалі яны лясніцтвы і надлясніцтвы пушчы, не дапускаючы да працы штрэйкбрэхераў, арганізавалі сходы, мітынгі, дэманстрацыі.

Аб забастоўцы лясных рабочых ніхто яшчэ не пісаў. Тады першы раз хачу пазнаёміць мілых і сімпатычных чытачоў «Нівы» з грамадскімі і эканамічнымі ўмовамі жыцця ляснога пралетарыяту, з каланіяльнай палітыкай фашысцкіх улад на гэтай тэрыторыі і з вострай, але рашучай забастовачнай барацьбой у Белавежскай пушчы.

(Працяг на стар. 2)

З КОНКУРСУ НАРОДНАЙ ВЫШЫЎКІ.
Фота: Г. Рагазінскі



СІРАТА СЯМІ НЯНЕК 4)

## ШУКАЮ БАГАТАГА ДЗЯДЗЬКУ

Даўно, вельмі даўно, уся культурная дзейнасць абапіралася выключна на кішэнях і добрым гумары менавіта багатых «дзядзькоў». Арыстакраты, а нават буйнейшыя звычайныя памешчыкі часта прымалі пад свае крылы паэтаў, пісьменнікаў, а часам цэлыя тэатральныя ансамблі. Зразумела, культурныя мерапрыемствы такога роду служылі і былі патрэбны выключна невялікай ды цесна абмежаванай групе багацеяў, якія, эксплуатуючы тысячы людзей, маглі не лічыць сваіх грошай.

Але гэта ўжо гісторыя. Зараз адзіным мецэнатам у справах заспакаення культурна-асветных патрэб грамадскасці з'яўляецца дзяржава і пакліканыя ёю выканаўчыя органы ды ўстановы. У выніку палітычных і эканамічных перамен, якія здзейсніліся ў нашай краіне, крыніцы культурна - асветнай справы сталіся адкрытымі і даступнымі кожнаму грамадзяніну незалежна ад таго, дзе ён жыве: у горадзе, ці ў вёсцы. А вядома, як апетыт расце ў час яды, так культурныя запатрабаванні растуць па меры іх заспакойвання. Адтуль непасрэдна выплываюць канкрэтныя заданні ў такіх галінах, як адукацыя працаўнікоў і будаўніцтва аб'ектаў культурнага характару.

**Найбольш балюча адчуваецца недахоп адпаведна падрыхтаваных людзей.** Паводле скромных падлікаў Аддзела культуры ВРН у Беластоку, каб задаволіць найбольш неабходныя патрэбы ваяводства, павінна яшчэ ў бягучай пяцігодцы прыступіць да працы:

— 20 інструктараў - музыкантаў для вядзення хораў і інструментальных ансамбляў;

— 20 харэаграфаў для інструктавання танцавальных ансамбляў;

— 20 выпускнікоў рэжысёрскіх факультэтаў для вядзення непрафесіянальных тэатраў;

— звыш 100 бібліятэкараў з поўнымі для гэтай

(Працяг на стар. 4.)

# Трыбуна чытачоў

## Конкурс народнай вышыўкі

Вельмі жыва адклікнуліся жыхары Беластока на арганізаваны Гарадскім аддзелам БГКТ конкурс на найлепшую беларускую народную вышыўку. У ім прыняло ўдзел 25 асоб, жыхароў Беластока і некалькі асоб з ваяводства. На конкурс прыслана 56 прац. Камісія пасля разгляду і ацэнкі экспанатаў ІІ-гую ўзнагароду прызнала жыхарцы Беластока Марыі Макарук за вышыўку ручніка, і ІІІ-цюю ўзнагароду Яўгіні Снарскай з Ванева ў Гайнаўскім павеце за майстэрства выканання карціны Шышкіна: «Раніца ў сасновым лесе». (Першай узнагароды непрызнана нікому).

Апрача гэтага, камісія шэсць экспанатаў адзначыла.

У першых днях красавіка з конкурсных экспанатаў беларускай народнай вышыўкі была арганізавана выстаўка ў Беластоцкім клубе міжнароднай кнігі і друку.

Выстаўка карысталася зацікаўленнем сярод наведвальнікаў. (вб)

## У Бельску дыскутавалі аб БГКТ

Вялікая канферэнцыйная зала Павятовага камітэта ПАРП у Бельску была перапоўнена моладдзю. Гэта з'ехаліся старшыні і сакратары гурткоў нашага Таварыства з акалічных вёсак на павятовую канферэнцыю.

З дакладам на тэму дагэтуляшніх дасягненняў і недахопаў у дзейнасці павятовай арганізацыі БГКТ выступіў актывіст Іван Семянюк. У дыскусіі выступалі шматлікія прадстаўнікі гурткоў БГКТ. Знаёмілі прысутных з удачамі і няўдачамі ў сваёй працы, і іх прычынамі.

Тав. П. Дмітрук, прадстаўнік Павятовага камітэта ПАРП, падкрэсліваў у сваім выступленні, што залогам добрай дзейнасці і спадзяваных яе эфектаў з'яўляецца цеснае супрацоўніцтва паміж гурткамі БГКТ і партыйнымі арганізацыямі, школамі, гурткамі ЗМВ, ЛьПЖ, КГД і г.д. Цікавым і карысным было таксама выступленне прадстаўніка ЗМВ тав. Веры Кандрацюк.

— Праўленні гурткоў БГКТ і ЗМВ павінны цесна супрацоўнічаць паміж сабою на штодзень, — сказала яна. — Да гэтых жа арганізацый належыць адна і тая ж моладзь. Свае планы дзейнасці неабходна дакладна ўзаемна ўзгадняць, разам апрацоўваць.

У канферэнцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі мясцовых партыйных і адміністрацыйных улад, арганізацый і культурных устаноў. У заключэнні выступіла тав. Лідзія Бялецкая, якая падсумавала дыскусію. (ся)

## »Лявоніха« ў Плёсках

10-4-62 года эстрада «Лявоніха» наведала нашу вёску Плёскі (Бельскі павет). Самадзейнікі эстрады былі горача прыняты насельніцтвам вёскі. Мясцовая святліца была запоўнена моладдзю, старэйшымі і вучнямі. Жыхары нашай вёскі вельмі ўдзячны самадзейнікам эстрады. Песня «Бывайце здаровы» закончыла мастацкую праграму эстрады «Лявоніха».

Выступленні самадзейнікаў эстрады «Лявоніха» напэўна паслужаць прыкладам нашым гурткам БГКТ, якія павінны разгортваць мастацкую працу.

**Анатоль Дзмітрук**
Плёскі

## Моладзь з Мора

Вёска мора досыць вялікая, яна налічвае амаль 200 гаспадароў. У вёсцы ёсць электрычнае святло, радыё, крама, электрычны млын, пабудавалі новую прыгожую школу, ёсць святліца, яна хоць і не новая, але вельмі задавольвае моладзь.

Моладзі ў Моры вельмі многа. Амаль кожны вечар збіраецца ў святліцы, чытае многа розных часопісаў, а з найбольшым захапленнем чытае «Ніву». У вёсцы Мора існуе гурток БГКТ і ЗМВ, да якіх належыць амаль уся моладзь. Старшынёй ЗМВ з'яўляецца Іван Шыла, а сакратаром — Надзя Нічыпарук. Моладзь атрымала з БГКТ шмат сцэнічных твораў, за якія вельмі ўдзячна. У святочныя вечары адбываюцца забавы, на якія збіраецца моладзь з суседніх вёсак. Не толькі моладзь збіраецца ў святліцы, але пажылыя жанчыны і мужчыны, яны часта гуляюць з моладдзю, найчасцей «казачка». А калі пойдуць танцаваць Трахім Сачко і Іван Баравік — уся зала весела смяецца. На перапынках паміж танцамі дзяўчаты спяваюць беларускія, польскія і рускія песні.

**В. Сарачынская**
**Я. Грыбоўская**

## Школа для дзяцей і дрэвак

У мінулым годзе ўвосені па ініцыятыве ГРН у Піліках пры дарогах было пасаджана 820 штук таполяў. Саджанцы не купляліся. Саджанцы ГРН мела са сваёй гадоўлі. **Вось школа ў Кнарыдах на сваёй плошчы ў паразуменні з Прэз. ГРН у Піліках заклала гадавальнік саджанцаў таполі. Якая ашчаднасць толькі за адзін сезон! 820 штук па 6 зл., якіх не трэба было плаціць надлясніцтву.**

Нам вядома, што ў гэтым годзе ўжо сама школа ў Кнарыдах засадзіла на сваёй плошчы **3000 новых дрэвак.** Вырастуць, прададуцца, і будзе нямала грошай. Грошы гэтыя прызначаюцца на агарожу школы. Кнарыдская школа ў справах гадавальніка супрацоўнічае з мясцовай школай сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Факт надта пазітыўны і карысны для абедзвюх школ. Часцей бы спатыкаць падобныя з'явы.

вл

## Гэта нават не снілася

Нядаўна ў сельскагаспадарчым гуртку ў Дубічах Царкоўных адбылася ворка зямлі дзяржаўнага фонду, паблізу вёскі. Малады яшчэ трактарыст, толькі пасля курсаў, Мікола Стэпанюк вывёў свой магутны трактар «Урсус» і з прыемным хваляваннем распачаў вясеннюю работу. Сельгасгурток у нас дабіўся выдатных поспехаў у мінулым годзе. А ў гэтым ужо хоча дайсці да самай мэты. У Дубічах ёсць вельмі-вельмі многа зямлі з дзяржаўнага фонду, пераважна няўгоддзі. Гэтыя няўгоддзі сельскагаспадарчы гурток намераны засадзіць лесам гэтай вясной. На маю думку, у гэтым гуртак нас не падвядзе. Гэта нават не снілася ні нам, ні нашым продкам, што некалі Дубічы будуць багаты сваім лесам.

**Мікалай Панфілюк**

## ВЕСКА СКУПАВА

Вёска Скупава знаходзіцца ў Гайнаўскім павеце. Яна акружана пушчай Ляцкай і Белавежскай. Налічвае амаль 130 гаспадароў.

Наша вёска да мінулага года славілася на ўсю аколіцу сваім балотам. Вясной ці ўвосень праз вёску без гумовых ботаў нельга было прайсці. У мінулым годзе ў вёсцы зрабілі шашу чынам, хаця яна не зусім яшчэ закончана, але Скупаўскае балота прапала.

У Скупаве ёсць сямікласная школа. Два гады назад дзеці вучыліся яшчэ ў прыватных хатах, таму што ў школе было дзве залы да навукі. Пры школе існуе крамік і бібліятэка. Вучні ў школе прадаюць злом. Школа і спартыўная пляцоўка будуць агароджаны сеткай, ужо частка агароджана і абсаджана дрэвамі.

У вёсцы ёсць крама, так што ўсё неабходнае можам купіць. Зараз будуецца новая крама, да будовы якой многа прычыніліся жыхары вёскі. У Скупаве існуе пункт бібліятэчны. Электрычнага святла няма, але запланавана яно на 1962 год. Мы вельмі чакаем тае мінуты, калі ў нас засвеціць электрычная лямпачка.

Два разы ў месяц прыязджае кіно з Нараўкі, існуе таксама гурток самадзейнасці.

**Валянціна Янцэвіч**
Скупава

## Выгляд нашай вёскі

На працягу пятнаццаці год пасля вайны ў нашай вёсцы адбыліся вялікія змены. Перш за ўсё вёска адбудавалася. У кожнага гаспадара ёсць свая хата, гумно, памяшканні для жывёлы. Хаця будынкі пераважна драўляныя, але крытыя найчасцей чарапіцаю. Грамадзянін Уладзіслаў Яблонскі паставіў сабе новую хату з цэглы. Сяляне нашай вёскі ведаюць аб матэрыялах, якія надаюцца на будову. Сярод іх найбольшую папулярнасць здабыў чорны жужаль, які з'яўляецца танным, але добрым матэрыялам. Некаторыя сяляне робяць з жужалю пустакі, з якіх будуюць склепы і памяшканні для жывёлы. Але вось малады гаспадар Міхась Дацкевіч задумаў пабудаваць з жужалю сабе хату. Думаю, што за прыкладам Уладзіслава Яблонскага і Міхася Дацкевіча пойдуць і іншыя людзі.

Вуліца адрамантаваная, цэлая брукаваная і высыпаная жвірам, а абапал яе красуюцца старыя і маладыя дрэвы. Школа, якая раней змяшчалася ў цесных сялянскіх хатах, цяпер мураваная. Будуецца новая мураваная крама. Сяляне нашай вёскі не толькі дбаюць пра выгляд сваіх панадворкаў і вёскі, але таксама і пра яе наваколле. На адрэзку двух кіламетраў шашы, якая вядзе з Нараўкі да Масева, зелянеюць маладыя дрэўцы. Сяляне змеліяравалі свае лугі. Супольнымі сіламі выкапалі яны роў, даўжынёй больш чым тры кіламетры. Кожны год ходзяць у лес гарадзіць пасадкі, у якіх растуць маладыя дрэўцы. Мікалай Скепка і Алесь Скепка акапалі грэблю, пабудавалі новы мост.

Павысіўся таксама ўзровень культуры ў нашай вёсцы. Усё больш сялян чытае кніжкі са школьнай і гміннай бібліятэк. Амаль кожны гаспадар выпісвае «Ніву». Некаторыя выпісваюць «Беларусь» і «Праўду». Два разы ў месяц прыязджае ў нашу вёску кіно. Сяляне маюць аказію бачыць савецкія і польскія фільмы. Амаль кожны гаспадар нашай вёскі ўмее чытаць і пісаць. Сяляне лепш пазналі беларускую літаратуру і даўнейшае жыццё беларусаў, калі ў 1961 годзе аглядалі канцэрт беларускай эстрады «Лявоніха».

**Янка Зданоўскі**






**Праграма ад 30.IV. — 6.V.1962 г.**

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Белавежа** „Tajemnicza puderniczka" (czeski), 1—3.05. „Porucznik Marynin" (radz.), 4—6.05.

**Кляшчэлі** „Tajemnicza puderniczka" (czeski), 1—3.05. „Porucznik Marynin" (radz.), 4—6.05.

**Навасады** „Chleb i róże" (radz.), 30.04.—1.05. „Droga na Zachód" (polski), 5—6.05.

**Нараў** „Szukam ojca" (radz.), 3—6.05.

**Нараўка** „Chleb i róże" (radz.), 3—6.05.

**Чаромуха** „Ulica ubogich kochanków" (włoski), 1—3.05. „Dziś w nocy umrze miasto" (polski), 4—6.05.

**Чыжы** „Aktorka księcia pana" (radz.), 3—6.05.

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Боцькі** „Odwiedziny prezydenta" (polski), 3—6.05.

**Бранск** „Skok o świcie" (radz.), 1—3.05. „Koniec drogi" (bułgarski), 4—6.05.

**Гродзіск** „Bunt kapitana" (czeski), 30.04—1.05. „Sprawa trzynastu" (radziecki), 5—6.05.

**Орля** „Przeciwko Bogom" (polski), 3—6.05.

**Райск** „Perła" (meksykański), 3—6.05.

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Гарадок** „Dzień ostatni, dzień pierwszy" (radz.), 1—3.05. „Mezalians" (węgierski), 4—6.05.

**Міхалова** „Liga dżentelmenów" (angl.), 1—3.05. „Tu radio Gliwice" (NRD), 4—6.05.

**Супрасль** „100 kilometrów" (włoski), 1—3.05. „Zmartwychwstanie" (radziecki), 4—6.05.

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Мельнік** „Statek z dynamitem" (rumuński), 1—3.05. „Salwa o świcie" (radz.), 4—6.05.

**Мілейчыцы** „Przygody Buratino" (radz.), 1—3.05. „Kwiecień" (polski), 4—6.05.

**Нурэц** „Wzgórze 905" (jugosł.), 1—3.05. „Wyrok" (polski), 4—6.05.

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Крынкі** „Towarzysze broni" (franc.), 1—3.05. „Zaduszki" (polski), 4—6.05.

**Сухаволя** „Wielki balet w Ameryce" (radz.), 1—3.05. „O moim przyjacielu" (radz.), 4—6.05.

**Шудзялава** „Mein Kampf" (szwedzki), 3—6.05.

**Янаў** „W pięknej Indonezji" (radz.), 1—3.05. „Nafta" (polski), 4—6.05.

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Ліпск** „Korsarze Pacyfiku" I. cz. 30.04.—1.05. „Korsarze Pacyfiku" II. cz. 5—6.05.

**Новы Двор** „Drugi człowiek" (polski), 30.04.—1.05. „Normandia-Niemen" (radz.-franc.), 5—6.05.

**Ружаны Сток** „15.10 do Yumy" (USA), 30.04.—1.05. „Drugi człowiek" (polski), 5—6.05.


Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 48.

Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł. kwartalnie — 7,20 zł. półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.

Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024.

Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie. 5 $ — w USA.

Nakład 5000 Błtk F-2

 

# ПАТРЭБНЫЯ РЭЧЫ

Давайце пагаворым сёння, чытачы сімпатычныя, аб рэчах неабходных для нашай вёскі.

Хоць мы і захапляемся навуковымі дасягненнямі ў галіне доследаў над Марсам і Венерай, але па Млечным шляху мы ездзіць не будзем. Для такой камяністай дарогі коні нашы слаба кованы. А каменняў, кажуць, там больш, чым у нас на полі. І яшчэ, нібы яны па начах свецяцца, толькі што гэтага голым вокам нельга прыкмеціць.

Вучоныя нашы заняліся сусветнымі праблемамі, а аб вёсцы не думаюць. А пры жаданні маглі б жа шмат карысных рэчаў для нас прыдумаць.

Нядаўна было такое смешнае здарэнне. Даехаў селянін да горада, і тут конь забаставаў. Снегу на гарадской вуліцы няма. Сані застраглі на каменнях, павярнуць назад нельга — аглоблі паломіш. І апынуўся селянін у становішчы, калі холадна, галадна і дахаты далёка.

Падобнай непрыемнасці не было б, калі б быў у нас апарат з экранам. Селянін націснуў бы патрэбную кнопку, рэгулятар наставіў бы на назване горада і бачыў бы на экране якая дарога і што трэба закладаць — воз, ці сані.

Або возьмем другі выпадак. Заўсёды маем непрыемнасці з памідорамі. Прымаразкі любяць шкодзіць ранняй расадзе. У гэтым выпадку цеплавы рэфлектар карыстаўся б у нас паважаннем. Гаспадар апоўначы гляне ў акно, убачыць іней, уключыць рэфлектар, і над памідорамі цеплыня расцілаецца, бы той май месяц.

Прыдалася б нам таксама доўгая механічная рука. Сядзіць, напрыклад, гаспадар вечарам у хаце. На панадворку мароз, носа не высунеш. Гаспадар у хаце націскае на рычаг, і доўгая рука скідае з вышак сена проста пад мызу каровe. Або ідзе да вас чалавек за даўгом, з якім вы не маеце жадання расставацца. Падыходзіць гэты чалавек да вашай брамкі, а доўгая рука яму фігу паказвае. Наведвальнік робіць ад варот паварот, і вы пазбягаеце непрыемнай гутаркі.

А як па-вашаму, чытачы сімпатычныя, апарат для ачысткі дэнатурату нам не прыдаўся б? З такім агрэгатам былі б мы ў спажыванні спіртных напіткаў на першым месцы.

А падвесная канатная дарога ад вёскі да станцыі не прыдалася б? Бульбу, бульбу і іншую пятрушку ладавалі б мы на ваганетцы, і справе канец. Тое самае і з мясапастаўкамі. Падвесілі б бычка на лямках да падвеснай дарогі, і пакаціўся б ён на роліках без перасадкі на станцыю. Для бычка прыемнасць і нам клопатаў менш.

Чаму вучоныя не задумваюцца над падобнымі рэчамі — лясун ведае.

*Дзядзька Лявон*

## Хірургі на прагулцы



### Кансультацыя

— Скажыце мне, доктар, што ў мяне такое? І не па-латыні, а па-просту.

— Вы ласун, гультай і п'яніца.

— А цяпер напішыце гэта па-латыні, каб я мог паказаць на службе і атрымаць адпачынак па хваробе.

Прыслаў **Юрка Адынец**

### На экзамене

Прафесар да студэнта: — Якую дозу морфію далі б вы такому хвораму?

Студэнт: — Шэсць грам.

— Дрэнна, — сказаў прафесар і паставіў у заліковай кніжцы двойку.

Студэнт: — Выбачайце, паважаны прафесар, я хачу паправіць.

— Ужо позна, — сказаў прафесар. — Ваш пацыент ужо памёр.

Прыслаў **А. Макаль**

### Дзеці

Васьмігадовы Янка пытаецца шасцігадовага Андрэя:

— Як называецца твой брат?

— Я не маю брата.

— А твая сястра?

— Не маю сястры.

— Дык каго ж ты тады б'еш?!

Прыслаў **Міхась Чыквін**



Без слоў.

## Бараной на пустазеллі

У святліцы ў вёсцы Плёскі (Бельскі павет) працягваецца сход. Прысутныя неяк не ловяць цікавых слоў выкладчыка. Іх увагу прыцягвае столь. Накіроўваюць яны ўверх свае позіркі, адкуль па выгнутых ад вільгаці, не так даўно памаляваных дошках сплываюць кроплі дажджу, трапляюць на галавы, уліваюцца за каўнеры і барабаняць па кажухах. Пад нагамі правальваюцца прагнійўшыя ўжо ад дажджу дошкі падлогі.

Плёскаўская моладзь, якая ўласнымі сіламі і сродкамі аднаўляла ўжо сваю святліцу, і тым разам хоча прыступіць да неабходнага рамонту. Закупіла ўжо чарапіцу. Моладзь з уласнага маладога лесу падрыхтуе кроквы і латы. Малады лес не надаецца на дошкі на падлогу. Таму моладзь ужо не раз звярталася за грашовай дапамогай да Грамадскай рады нарадовай у Храбалах. ГРН заўсёды абяцае. Абяцанка, цацанка... як сцвярджае пагаворка. Дажджы, на жаль, не абмінаюць плёскаўскай святліцы, святліца гніе, і недалёкі ўжо той час, калі заваліцца спарахнелы дах.

Вось каб так сюды ў святліцу ў дажджлівае надвор'е на некалькі дзён пасадзіць урадавых працаўнікоў ГРН у Храбалах, каб ім падмачыла крышку бюракратычныя паперкі. А можа і дачакаліся б, што і дах над імі заваліўся б?

Вось тады ўжо напэўна дайшлі б да вываду, што рамонт святліцы ў Плёсках неабходны.

В. Ш.




## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ ЧЫТАЧОЎ.

**По просьбе Янкі Цялушэцкага з Новага Ляўкова, Гайнаўскі павет, змяшчаем песню з кінафільма «Вясна на вуліцы Зарэчнай».**

### Калі вясна прыдзе




*) При сольном исполнении петь верхний голос.

**Когда весна придет — не знаю,
Придут дожди, сойдут снега...
Но ты мне, улица родная,
И в непогоду дорога.**

**Мне все здесь близко, все знакомо,
Все в биографии моей —
Дверь комсомольского райкома,
Семья испытанных друзей.**

**На этой улице подростком
Гонял по крышам голубей
И здесь, на этом перекрестке,
С любовью встретился своей.**

**Теперь и сам не рад, что встретил,
Моя душа полна тобой.
Зачем, зачем на белом свете
Есть безответная любовь!..**

**Когда на улице Заречной
В домах погашены огни,
Горят мартеновские печи,
И день и ночь горят они.**

**Я не хочу судьбу иную,
Мне ни на что не променять,
Ту заводскую проходную,
Что в люди вывела меня.**

**На свете много улиц славных,
Но не сменяю адрес я.
В моей судьбе ты стала главной,
Родная улица моя.**







Без слоў.

## КАНЯКРАД

Суддзя: — Навошта вы ўкралі каня?

Канякрад: — Гэта не я ўкраў каня, а ён мяне.

Суддзя: — Якім чынам?

Канякрад: — А вось якім. Ішоў я да свайго сябра ў другую вёску. А ўпоперак дарогі стаіць конь. Я хацеў прайсці каля хваста, ён б'ецца капытамі. Хацеў пралезці пад жыватом, ён скача. Стаў я і думаю, як мінуць гэтага каня. Раптам прыдумаў. Пералезу цераз каня! Толькі што паспеў я пералажыць адну нагу, як конь пойдзе, ледзь утрымаўся я на версе. Так мы і апынуліся ў майго сябра. Гэта не я ўкраў каня, а ён мяне.

Прыслаў **Анатоль Ігнацюк**

 